Дзякуй «Белпошце»! Падпіска працягнута да 29 снежня.

№ 101 (4046)

24 снежня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

## Што за шчырым прызнаннем Андрэя Кабякова?

“Бюджэт 2016 года – гэта не бюджэт развіцця”, – шчыра прызнаўся прэм’ер-міністр Андрэй Кабякоў. А гэта значыць, што беларуская ўлада не знайшла механізмаў, каб айчынная эканоміка пайшла ўгору. Лепшае, на што мы можам разлічваць, дык гэта на тое, што ўраду ўдасца хаця б стрымліваць падзенне.

Пакуль тэкст шматстаронкавага дакумента не абнародаваны, таму цяжка гаварыць пра прыярытэты беларускай дзяржавы – куды пойдуць інвестыцыі: у эканоміку альбо навуку, на сацыяльную падтрымку насельніцтва ці на фінансаванне сілавых і кантрольных структур. На дадзены момант вядома толькі тое, што беларускі бюджэт разлічаны з таго, што кошт нафты складзе 63 долары за бараль, а курс расійскага рубля будзе 63 рублі за адзін долар. Іншымі словамі, беларускія ўлады разлічваюць, што ў 2016-м выйдзе з крызісу і ачуняе расійская эканоміка. Пры гэтым цяжка сказаць, на чым грунтуюцца такія надзеі.

Па крайняй меры на сённяшні дзень сітуацыя не выклікае ніякага аптымізму. Кошт нафты імкліва зніжаецца, і на гэтым тыдні бараль каштаваў ужо 36 долараў. Пры гэтым асноўныя краіны-пастаўшчыкі нафты не памяншаюць квоты на здабычу “чорнага золата”, да таго ж Злучаныя Штаты Амерыкі пачалі экспарт нафты. А гэта значыць, што дэфіцыт гэтага прадукту на рынку не прадбачыцца. Хутчэй наадварот. А значыць, паводле законаў эканомікі, кошт нафты пайсці ўгару ніяк не можа – толькі ўніз. Шэраг аналітычных цэнтраў увогуле даюць прагноз, што кошт нафты ў бліжэйшай перспектыве можа знізіцца да 20–25 долараў за бараль… Іншымі словамі, высокая верагоднасць таго, што беларускі бюджэт проста не будзе мець тых даходаў ад продажу нафтапрадуктаў, на якія разлічваў. Што ён – нерэальны.

І тым не менш бюджэт прыняты…

Што тычыцца курсу расійскага рубля, то тут сітуацыя аналагічная. 63 рублі за долар – гэта мара. Ужо сёння курс складае 71 рубель за долар, і нават у Расіі мала хто верыць, што рубель у наступным годзе ўтрымаецца на гэтым паказчыку, мала хто разлічвае на цуд.

На што ж разлічваюць тыя, хто складаў беларускі бюджэт і зацвярджаў яго? Мабыць толькі на нашы з вамі кашалькі і цярпенне.

**Алег СНОЎ.**

ПАРАЛЕЛІ

## Па-за канкурэнцыяй...

1 красавіка 1991 года беларускія ўлады вырашылі падняць статус журналістаў. Дзяржаўны камітэт па друку быў ператвораны ў Міністэрства інфармацыі і друку (першае ў савецкай гісторыі). І вось гэтая дзяржаўная ўстанова (праўда, ужо без “друку”) дзейнічае і дагэтуль. Дзе яшчэ існуюць міністэрствы інфармацыі?

У ЗША ёсць Федэральная камісія па сувязі (FCC). Яна рэгулюе выкарыстанне ўсяго радыёспектра (у тым ліку радыё і тэлебачання), а таксама ўсёй міждзяржаўнай тэлесувязі (тэлефон, спутнік і тэлеграф). Важна, што FCC з’яўляецца незалежным урадавым агенцтвам. Яно зацвярджаецца кангрэсам ЗША, але прэзідэнт не можа самастойна звольніць, скажам, кіраўніка гэтай камісіі.

Дастаткова складаная сістэма існуе ў Кітаі. Там дзейнічае Міністэрства прамысловасці і інфарматызацыі. Але яно адказвае хутчэй за развіццё ў краіне паштовай сувязі, інтэрнэту, тэле- і радыёвяшчання. А вось за рэгуляванне кантэнта адказваюць два галоўныя ўпраўленні: радыёвяшчання, кінематаграфіі і тэлебачання, а таксама друку і публікацый.

У Вялікабрытаніі маецца адзінае Міністэрства культуры, СМІ і спорту. Але пра прыярытэты ў яго дзейнасці сведчыць неафіцыйная пасада міністра – сакратар культуры. У структуры ўстановы ёсць асобныя сектары (напрыклад, сектар друкаваных СМІ).

Асобнага міністэрства інфармацыі не знайсці ў структуры большасці еўрапейскіх краін: Грэцыі, Германіі, Італіі, Францыі... Часцей за ўсё функцыі такой установы выконвае аддзел або дэпартамент. У лепшым выпадку слова “інфармацыя” час ад часу трапляе ў назву аднаго з міністэрстваў. Вельмі красамоўным прыкладам на постсавецкай прасторы з’яўляецца Казахстан. Напрыклад, у гэтай краіне існавалі Міністэрства культуры, інфармацыі і грамадскай згоды (1999–2003); культуры, інфармацыі і спорту (2004–2006); культуры і інфармацыі (2006–2010 і 2012–2014). Але асобнага Міністэрства інфармацыі ў Казахстане не існавала ніколі.

Дык дзе, апроч Беларусі, існуе Міністэрства інфармацыі? У Расіі дзейнічае Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях (яно падпарадкоўваецца Міністэрству сувязі і масавых камунікацый). У снежні 2014 года ва Украіне з улікам ваенных абставін было створана Міністэрства інфармацыйнай палітыкі (хоць гэта рашэнне выклікала крытыку незалежных украінскіх журналістаў). У Малдове маецца Міністэрства інфармацыйных тэхналогій і сувязі. Апроч таго, такія ўстановы маюцца ў далёкіх ад Беларусі рэгіёнах – Міністэрства інфармацыі і тэлерадыёвяшчання існуе ў Індыі і ў Пакістане – Міністэрства інфармацыі. Але ў Еўропе беларусы па-за канкурэнцыяй!

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**



КАМПЕТЭНТНА

## «Гэта не бюджэт, а абаранак для дурняў»

Так ахарактарызаваў бюджэт Беларусі на 2016 год кандыдат эканамічных навук, прафесар **Леанід ЗАІКА.**

“Бюджэт складзены па старых лякалах, – заўважае спецыяліст. – Гэта ўсё роўна, што шыць пінжачок для юнака з ружовымі шчочкамі: пакуль сшыеш, ён можа вырасці. Трэба было скараціць ўсе выдаткі на 15%, а ў бюджэце адбылося іх павелічэнне на 7%.

На сённяшні дзень бюджэт асаблівай цікавасці не ўяўляе. Галоўнае сёння – прамысловая палітыка і стымуляванне развіцця бізнесу, стымуляванне эканамічнай дынамікі. А бюджэт у цяперашнім выглядзе ўсё роўна невыканальны. У Беларусі ўвогуле бюджэты ніколі не выконваліся, таму самая бязглуздая справа – каментаваць бюджэт, які ніколі не выконваецца. За два-тры месяцы да канца года яго ўсё роўна перакрояць”.

ПОИМЕННО

*Новое старое правительство продолжает работать. Что оно из себя представляет?*

## Сколько лет членам белорусского правительства?

| | |
|---|---|
| **КОБЯКОВ Андрей Владимирович,** премьер-министр | 55 лет |
| **МАТЮШЕВСКИЙ Василий Станиславович,** вице-премьер | 46 лет |
| **КАЛИНИН Анатолий Николаевич,** заместитель премьер-министра | 56 лет |
| **КОЧАНОВА Наталья Ивановна,** заместитель премьер-министра | 55 лет |
| **РУСЫЙ Михаил Иванович,** заместитель премьер-министра | 61 год |
| **СЕМАШКО Владимир Ильич,** заместитель премьер-министра | 66 лет |
| **ЧЕРНЫЙ Анатолий Борисович,** министр архитектуры и строительства | 57 лет |
| **ШУНЕВИЧ Игорь Анатольевич,** министр МВД | 48 лет |
| **ТЕРЕХОВ Александр Александрович,** министр жилищно-коммунального хозяйства | 37 лет |
| **ЖАРКО Василий Иванович,** министр здравоохранения | 59 лет |
| **АНАНИЧ Лилия Станиславовна,** министр информации | 55 лет |
| **МАКЕЙ Владимир Владимирович,** министр иностранных дел | 57 лет |
| **СВЕТЛОВ Борис Владимирович,** министр культуры | 57 лет |
| **АМЕЛЬЯНОВИЧ Михаил Михайлович,** министр лесного хозяйства | 57 лет |
| **РАВКОВ Андрей Алексеевич,** министр обороны | 48 лет |
| **ЖУРАВКОВ Михаил Анатольевич,** министр образования | 54 года |
| **НАЛИВАЙКО Сергей Эдуардович,** министр по налогам и сборам | 42 года |
| **ВАЩЕНКО Владимир Александрович,** министр по чрезвычайным ситуациям | 57 лет |
| **КОВХУТО Андрей Марленович,** министр природных ресурсов и охраны окружающей среды | 55 лет |
| **ВОВК Виталий Михайлович,** министр промышленности | 53 года |
| **ПОПКОВ Сергей Петрович,** министр связи и информатизации | 58 лет |
| **ЗАЯЦ Леонид Константинович,** министр сельского хозяйства и продовольствия | 57 лет |
| **ШАМКО Александр Игоревич,** министр спорта и туризма | 47 лет |
| **КОЛТОВИЧ Владимир Васильевич,** министр торговли | 49 лет |
| **СИВАК Анатолий Александрович,** министр транспорта и коммуникаций | 53 года |
| **ЩЕТКИНА Марианна Акиндиновна,** министр труда и социальной защиты | 57 лет |
| **АМАРИН Владимир Викторович,** министр финансов | 54 года |
| **ЗИНОВСКИЙ Владимир Иванович,** министр экономики | 60 лет |
| **ПОТУПЧИК Владимир Николаевич,** министр энергетики | 57 лет |
| **СЛИЖЕВСКИЙ Олег Леонидович,** министр юстиции | 43 года |
| **ВАКУЛЬЧИК Валерий Павлович,** председатель Комитета госбезопасности | 51 год |
| **ГУРУЛЕВ Сергей Петрович,** председатель Государственного военно-промышленного комитета | 62 года |
| **ГАЕВ Андрей Анатольевич,** председатель Государственного комитета по имуществу | 38 лет |
| **ШУМИЛИН Александр Геннадьевич,** председатель Государственного комитета по науке и технологиям | 44 года |
| **НАЗАРЕНКО Виктор Владимирович,** председатель Государственного комитета по стандартизации | 57 лет |
| **МАЛЬЦЕВ Леонид Семенович,** председатель Государственного пограничного комитета Республики Беларусь | 66 лет |
| **СЕНЬКО Юрий Алексеевич,** председатель Государственного таможенного комитета | 48 лет |

КТО ЕСТЬ КТО

## Владимир Семашко старший и по возрасту, и по стажу работы в Совмине

Оказывается, до гендерного равенства в высших эшелонах белорусской власти далеко. Женщин в белорусском правительстве только три – заместитель премьер-министра **Наталья Кочанова,** министр труда и соцзащиты **Марианна Щеткина,** министр информации **Лилия Ананич.** Пенсионеров, стоит отметить, тоже немного – опять-таки Кочанова, Щеткина, Ананич, а также два заместителя премьер-министра **Владимир Семашко** и **Михаил Русый,** председатель Государственного пограничного комитета **Леонид Мальцев** и председатель Государственного военно-промышленного комитета **Сергей Гурулев.** В этом году 60 лет исполнилось министру экономики **Владимиру Зиновскому.** К слову, 66-летний Владимир Семашко дольше всех находится и в правительстве – 12 лет. На должность заместителя премьер-министра он был назначен в декабре 2003 года, и с тех пор запись в его трудовой книжке практически не менялась.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**



ГУЧНАЯ СПРАВА

## Следчы камітэт «не расшыфроўвае» арышт Валянціна Чаканава

Як паведамлялася ў мінулым нумары “Народнай Волі”, Следчы камітэт Беларусі пацвердзіў той факт, што былы міністр гандлю Валянцін Чаканаў змешчаны пад варту. Але ў чым канкрэтна падазраецца чыноўнік?

Паводле інфармацыі СК, *«дзеянні падазронага кваліфікаваны па частцы 3 артыкула 426 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь”*. Гэта – **перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў.** Артыкул, па якім абвінавачваецца **Валянцін Чаканаў**, прадугледжвае пакаранне ў выглядзе 8 гадоў зняволення.

**– Дык у чым канкрэтна падазраецца былы міністр гандлю?** – з такім пытаннем мы звярнуліся ўчора ў прэс-службу Следчага камітэта.

– Тое, што ёсць на нашым сайце, – гэта вычарпальная інфармацыя, – адказала афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі **Юлія ГАНЧАРОВА**. – *Пакуль гэта ўсё, што мы маем сказаць, дапаўненняў пакуль не будзе.*

Тым часам з нагоды гэтай гучнай справы ў СМІ з’яўляюцца самыя розныя версіі.

*«Валянцін Чаканаў апошнія гады жыў у пастаянным страху,* – цытуе словы “дасведчанай асобы” Радыё Свабода. – *Баяўся, што арыштуюць… Хабар, адкат, перавышэнне ўлады, злоўжыванні – гэта ўсё магчыма ў цяперашняй рабоце любога беларускага міністра. Тым больш калі той можа нешта размяркоўваць, кантраляваць ці выдаваць ліцэнзіі. У Міністэрства гандлю некалькі гадоў таму з’явіўся дадатковы рычаг – гандлёвая інспекцыя. Праз яе можна было ўплываць нават на вялікія гандлёвыя сеткі, а гэта велізарны карупцыйны патэнцыял. Але як было на самай справе, лепш вядома следчым”.*

Спадзяёмся, хутка грамадскасць атрымае больш падрабязную інфармацыю. Як-ніяк за кратамі апынуўся не бомж, а міністр – чыноўнік высокага рангу. І не кожны дзень у нас арыштоўваюць членаў урада. А Валянцін Чаканаў быў адным з іх, лічы, да самага пазбаўлення волі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## *Калі ты прагнеш лепшай долі – Дапамажы «Народнай Волі». У свеце праўды жыць імкніся – І на газету падпішыся!*



Так, шаноўныя сябры, газета будзе жыць, калі Вы будзеце з ёю сябраваць. На гэта рэдакцыя вельмі і вельмі разлічвае.

Як і на тое, што ў дні, якія засталіся да заканчэння падпісной кампаніі (“Белпошта” працягнула яе да 29 снежня), Вы зможаце не толькі самі аформіць падпіску, калі яшчэ не зрабілі гэтага, а і сагітаваць суседзяў, саслужыўцаў, сяброў.

А пойдзеце на Новы год у госці да сваякоў – падарыце ім падпіску на “Народную Волю”.

**Будзем разам у 2016 годзе!**

КАКИМ СЛОВАМ ВЕРИТЬ?

## Александр ЛУКАШЕНКО – о перспективах на 2016 год

### За полтора месяца до президентских выборов:

– Уверен, в следующем году мы начнем выкарабкиваться из этого положения, хотя мы не обвалились так, как другие.

*(27 августа, посещая ОАО «Барановичское производственное хлопчатобумажное объединение».)*

### Спустя два месяца после президентских выборов:

– Следующий год будет очень сложным, смею заметить, что такого года в истории нашей страны не было.

*(22 декабря, во время кадровых назначений.)*

ВІНШУЕМ!

*Заўтра католікі адзначаюць Божае нараджэнне*



## Беларусь, не бойся прыняць Хрыста!

*(З Пастырскага паслання Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча на Свята Божага Нараджэння 2015 года)*

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры!

Сардэчна вітаю вас словамі анёла, які абвясціў бэтлеемскім пастушкам аб нараджэнні Збаўцы.

Знамянальна, што сёлетнюю ўрачыстасць Нараджэння Хрыста мы святкуем у Год Божай Міласэрнасці.

Мы жывём у асаблівы для Касцёла і свету час. З аднаго боку, свет імкнецца спіхнуць хрысціянскую веру на ўзбочыну грамадскага жыцця. З іншага ж – мы бачым шмат знакаў дзеяння Святога Духу.

Мы з’яўляемся часткай гісторыі, якая адбываецца на нашых вачах, і, як веруючыя, павінны сваім жыццём і хрысціянскім сведчаннем вызнаваць веру ў Езуса Хрыста, які быў зачаты ад Святога Духу, нарадзіўся з Панны Марыі ў Бэтлееме, быў укрыжаваны, пахаваны, уваскрос, узышоў на неба і сядзіць праваруч Айца.

Божае Нараджэнне стала сапраўднай рэвалюцыяй у гісторыі чалавецтва, бо Сын Божы стаўся чалавекам для нас і нашага збаўлення, прынёс у гэты грэшны свет новы закон любові да бліжняга і адарыў яго збаўчай ласкай.

Падобная духоўная рэвалюцыя павінна адбыцца і ў кожным з нас, каб мы моцна трымаліся сваёй веры і не дазволілі спіхнуць яе на ўзбочыну жыцця, але з высока паднятай галавой ішлі праз яго, ведаючы, што нашай мэтай ёсць шчаслівая вечнасць…



Мы жывём у чаўне дваццацьпершастагоддзевага стылю жыцця і яго моды і баімся з яго выйсці, бо што скажа свет, што скажуць блізкія і сябры? Могуць назваць старамоднымі. Сёння хрысціяне могуць згадзіцца на разводы, аборты, эўтаназію, апладненне «in vitro», гомасексуальныя саюзы і іншыя духоўныя анамаліі. Чаму? Бо свет такі, бо мы яго баімся, бо лягчэй плысці па цячэнні, чым супраць, бо ў наша духоўнае жыццё ўваходзіць феномен паліткарэктнасці, калі мы не маем, а можа, не хочам мець свайго меркавання па тым ці іншым маральным пытанні.

Страх перад светам нас паралізуе і не дазваляе даверыцца Хрысту. У кожным з нас у большай ці меншай меры ён прысутнічае, і толькі давер Езусу дапамагае яго перамагчы. Для гэтага неабходна адмовіцца ад сваёй ганарлівасці, перамагчы самога сябе і сказаць: «Так, Пане Езу, я, як Твой вучань, не згаджаюся з тым, што прапануе секулярны стыль жыцця». Калі так учыню, то перамагу самога сябе і страх, які мяне апанаваў, каб быць сапраўдным вызнаўцам Хрыста.

Тут да месца ўзгадаць словы Святога Яна Паўла ІІ, які ў далёкім 1978 годзе казаў: «Не бойцеся, адчыніце насцеж дзверы Хрысту. Яго збаўчай уладзе адчыніце межы дзяржаў, эканамічных і палітычных сістэм, шырокія сферы культуры, цывілізацыі і развіцця! Не бойцеся! Хрыстус ведае, што ў сабе носіць чалавек. Ён адзін гэта ведае!»

Дарагія браты і сёстры!

Віншую ўсіх католікаў з радасным і збаўчым святам Нараджэння Хрыста!

Віншую хрысціян іншых веравызнанняў, якія сёння адзначаюць яго!

Віншую братоў і сясцёр праваслаўных, якія ў хуткім часе будуць святкаваць Божае Нараджэнне!

Віншую ўсіх людзей добрай волі! Сын Божы прыйшоў у гэты свет у вобразе чалавека для ўсіх, а сённяшняе свята ў Беларусі адзначаецца таксама і на дзяржаўным узроўні.

Падобна таму, як нованароджанае немаўля з’яўляецца знакам надзеі для яго бацькоў, таксама і Немаўля Езус нясе новую надзею ўсім нам і нашай Бацькаўшчыне, бо Бог спаслаў свайго Сына, народжанага з Марыі Дзевы, каб аб’явіць нам канчаткова сваю любоў, – як кажа Папа Францішак, абвяшчаючы Юбілейны Год Міласэрнасці (пар. MV 1).

Таму, Беларусь, не бойся прызнаць у Хрысце Сына Божага, прымі Яго і даверся Яму! Ён сваёй любоўю залечыць твае раны, прывядзе да так патрэбнага ўсім нам цуду паяднання і ўчыніць цябе новай і шчаслівай!

*Мінск, 19 снежня 2015 года.*

Народная Воля http://www.nv-online.info 24 СНЕЖНЯ 2015 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,
профессор, доктор экономических наук

# Ждем у моря погоды?

Не помню другого такого года, когда так грустно было подводить итоги.

Валовой внутренний продукт за 11 месяцев 2015 года по сравнению с таким же периодом прошлого года в минусе на 3,9%. И, скорее всего, с таким минусом год и закончим. Падение промышленного производства составило 7,1%. Инвестиции в основной капитал как один из важных источников поступательного движения экономики обвалились на 14,8%. Даже в Украине, экономика которой находится под воздействием военного конфликта, инвестиции в основной капитал снизились всего на 9,2%. Инфляция с начала года достигла вновь двузначных 10,7%. Но народ не верит этой скромной цифре Белстата. Ценники в магазинах говорят совсем о другом.

В Минске производство тракторов обвалилось на 41%, грузовых автомобилей – на 57,7%, автобусов – на 50,9%, мотоциклов – на 81,2%. Коллектив завода телевизоров «Горизонт» ушел на новогодние каникулы досрочно. Экспорт товаров и услуг за январь–октябрь сократился по стране на 24,8%.

Реальная зарплата снизилась на 5,3%. В начале уходящего года курс белорусского рубля к доллару был 11.900. На день написания статьи – уже больше 18.300 рублей. Девальвация на 54% говорит сама за себя.

Проваленные планы по модернизации госпредприятий, естественно, не вывели национальную экономику на уровень производств, соответствующий так называемым 5-му и 6-му технологическим укладам. Мы остались в советских 3-м и 4-м укладах, доля высокотехнологичных производств в Беларуси составляет чуть больше 2%. Производительность труда в белорусской промышленности в 4 раза ниже, чем в странах Евросоюза.

Нынешний кризис белорусской экономики – рукотворный. Рожден он кризисом российской экономики и политикой Путина. Именно она вызвала антироссийские экономические санкции Запада, продовольственные контрсанкции России в отношении Евросоюза, а теперь еще и эмбарго на турецкое продовольствие, что обусловило рост цен в стране. В результате продовольственная инфляционная волна накрыла буквально все регионы. По инфляции в целом Россия практически сравнялась с Беларусью. ВВП России снизился на 3,7%. Дефицит федерального бюджета за 11 месяцев составил 1,4 млрд долларов, тогда как в 2014 году за аналогичный период был профицит в 1,3 миллиарда.

Хотя говорят, что за компанию можно и повеситься, но кому из белорусов хочется лезть в петлю? В то же время она все туже затягивается. Есть над чем ломать голову. В 2016 году Беларусь по внешним государственным долгам должна будет выплатить 3,3 млрд долларов. Из них 1,5 млрд – за счет рефинансирования, то есть за счет новых заимствований. Запрашиваемые правительством двухмиллиардный долларовый кредит – у Евразийского банка, контролируемого Россией, и трехмиллиардный кредит – у МВФ остаются в подвешенном состоянии. Российская казна пустеет. Визиты Лукашенко в Москву, его переговоры с Путиным официально не внесли ясности насчет российского кредита.

Все правительство, за исключением арестованного министра торговли, переназначено в старом составе. При этом Лукашенко предупредил его членов о недопущении каких-либо «экспериментов» в проведении экономической политики, которые сразу будут рассматриваться как покушение на государственный строй. Следовательно, какие-то глубокие структурные реформы в экономике вряд ли предвидятся.

При принятии бюджета на 2016 год, который сверстан из расчета цены нефти в 50 долларов (!) за баррель, в очередной раз подчеркивалась его социальная направленность: 54% расходов – социальные статьи. Но в прошлые годы их доля всегда была выше 60%. Вот вам и «социальная направленность»!

Уже видны косметические изменения в лексиконе чиновников, которые будут выдаваться за реформы. В указе №504 словосочетание «параметры прогноза» заменено на слово «задачи», которые опять-таки ставятся Нацбанку и правительству, а те спустят их, как водится, по инстанциям вниз. Подготовлена новая редакция законопроекта о государственном индикативном планировании. Его суть вроде бы проста – прогнозные (плановые) показатели должны быть не директивными, как прежде, а лишь ориентирами (индикаторами) для экономики и ее отраслей. Даже высшие чиновники уже публично признают, что система ручного управления не дает нужного эффекта и завела экономику страны туда, где она сегодня есть.

Однако терминологию можно применить любую. Главное, как говорят юристы, правоприменительная практика. Если по-прежнему всем будет руководить один человек, если не будет меняться форма собственности, если чиновник будет сидеть на чиновнике, думая, как бы исподтишка обтяпать свое грязное дело, – ничего хорошего не предвидится.

Жаль, но более чем двадцатилетняя практика показала: управлять экономикой, государством по-другому бессменный лидер белорусской власти не может. А что значит его заявление «Будем совершенствовать то, что имеем»? Ничего не значит. Может быть, только то, что нам, белорусам, остается ждать у моря погоды. А если точнее, выздоровления российской экономики. Может, непредсказуемый Путин надорвется в конце концов на своем военно-геополитическом банкете…

ДА ВЕДАМА

## П'яны за рулём заплаціць 21 мільён штрафу

Як вядома, з 1 студзеня 2016 г. памер базавай велічыні ў Беларусі складзе 210 тысяч рублёў. Услед за яе ростам павялічацца штрафы, дзяржпошліны і падатак на дармаедства.

**Што колькі будзе каштаваць:**

– падатак на дармаедства – 4,2 мільёна рублёў;

– штраф за нявыплату гэтага падатку – ад 420 да 840 тысяч рублёў;

– безбілетны праезд у гарадскім грамадскім транспарце – 105 тысяч рублёў;

– на прыгарадных маршрутах – 147 тысяч рублёў;

– штраф за кіраванне ў нецвярозым выглядзе – ад 3 мільёнаў 150 тысяч до 6 мільёнаў 300 тысяч;

– штраф за кіраванне ў нецвярозым выглядзе (паўторна) – 21 мільён;

– за язду без дакументаў – да 420 тысяч;

– за язду без тэхагляду – ад 210 да 630 тысяч;

– штраф за здачу ў арэнду кватэры, пабудаванай па льготным крэдыце, – ад 840 тысяч да 6 мільёнаў 300 тысяч.

Замена пашпарта – 105 тысяч рублёў.

Рэгістрацыя ІП – 105 тысяч рублёў.

Рэгістрацыя шлюбу – 210 тысяч.

Скасаванне шлюбу – 840 тысяч рублёў.

ЧУЛІ?

## Зусім не танна

Кошт дзяржаўных арэндных кватэр у Беларусі падвысіцца з 1 студзеня, што звязана з павелічэннем памеру базавай велічыні, да якой прывязаны стаўкі арэнды.

Ужо сёння раённыя адміністрацыі прапануюць мінскім чаргавікам кватэры, за якія пасля Новага года прыйдзецца аддаваць больш за 4 мільёны рублёў у месяц. Вось толькі дзе знайсці такія заробкі, каб можна было аплаціць "танныя арэндныя кватэры" ды яшчэ і пражыць?

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ

## Не выкідвайце праязныя

Сёння, 24 снежня, даражэе праезд у гарадскім транспарце Мінска. Прычым кошт адной паездкі ў наземным транспарце і метрапалітэне будзе розны – 5000 і 5500 рублёў адпаведна.

А што рабіць з праязнымі дакументамі, якія мінчане набылі раней?

Як патлумачылі журналістам у дзяржаўным прадпрыемстве «Мінсктранс», запісаныя на бескантактныя смарт-карты (БСК) паездкі будуць сапраўдныя без даплат на працягу 60 дзён з дня пакупкі – як у метро, так і ў наземным транспарце.

Калі вы паспелі купіць безлімітны праязны на месяц, паўмесяца, дэкаду, ён будзе дзейнічаць на працягу гэтага тэрміну. «Старымі» талонамі можна карыстацца 10 дзён з дня падаражання, а потым іх можна абмяняць з даплатай у кіёсках «Агенцтва Мінсктранс».

*– Калі кошт разавых паездак у метро і наземным транспарце адрозніваецца, як цяпер папаўняць БСК?*

– Запісваць паездкі на смарт-карту асобна: напрыклад, 50 на аўтобус, тралейбус і трамвай і 20 на метро. Калі пасажыр будзе прыкладаць карту БСК да валідатара, спісвацца паездкі таксама будуць асобна ў наземным і падземным транспарце. Што тычыцца сумешчаных праязных на пэўны перыяд, для іх, акрамя кошту, нічога не зменіцца. Дапусцім, запісваеце на БСК сумешчаны квіток на аўтобус-тралейбус-метро і карыстаецеся гэтымі відамі на працягу аплачанага тэрміну.

КРЫМІНАЛ

## Чыноўнікі зарабілі на хабарах 235 мільёнаў рублёў

Намеснік старшыні Лідскага райвыканкама **Антон Глаўніцкі** і старшыня Траццякоўскага сельскага выканаўчага камітэта **Сяргей Мікулка** злоўжывалі службовым становішчам з красавіка 2013-га па сакавік 2015 года, паведамляе сайт Следчага камітэта. Мужчыны «зарабілі» не менш як 235 мільёнаў рублёў пасля таго, як дапамаглі атрымаць шэнгенскія візы прыкладна 150 беларусам. Паводле легенды тыя, хто дзякуючы ім атрымліваў візы, адпраўляліся за мяжу для ўдзелу ў культурных, навуковых, гуманітарных і спартыўных мерапрыемствах, хаця ніякага дачынення ні да спорту, ні да музыкі не мелі.

Плюс да ўсяго ў 2013–2014 гадах намеснік старшыні Лідскага райвыканкама некалькі разоў незаконна прыцягваў супрацоўніка Бярозаўскага гарвыканкама да выканання работ на сваёй дачы. Аплата пры гэтым не здзяйснялася.

У Лідскім райвыканкаме Глаўніцкі курыраваў шырокі спіс пытанняў: ад ідэалогіі, рэлігіі і маладзёжнай палітыкі да супрацоўніцтва з гарадамі-пабрацімамі і арганізацыямі прыватнай формы ўласнасці.

Абодва чыноўнікі затрыманы. На іх маёмасць накладзены арышт на агульную суму амаль 900 мільёнаў. Ім прад'яўлена абвінавачанне па ч.3 арт.430 (да сямі гадоў пазбаўлення волі) і ч.3 арт.424 (да дзесяці гадоў пазбаўлення волі) Крымінальнага кодэкса. Справа перададзена ў суд.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## У Мінск з Мадрыда

На выставе, якая адкрылася ўвечары 21 снежня ў Нацыянальным мастацкім музеі, прадстаўлены 95 арыгінальных гравюр сусветна вядомых мастакоў Франсіска Гоі і Пабла Пікаса.

Арганізатарам экспазіцыі «Гоя... Пікаса» выступіла кампанія «Берын Арт Менеджмент» пры садзейнічанні пасла Беларусі ў Францыі і Іспаніі (па сумяшчальніцтве) Паўла Латушкі. Творы прадставіў Музей каралеўскай акадэміі прыгожых мастацтваў Сан-Фернанда (Мадрыд). Агульны кошт твораў мастацтва складае 1.400.000 еўра.

Выстава будзе працаваць да 21 сакавіка 2016 года.

СКАНДАЛ

# Хто дазволіў нявечыць воблік гарадоў?

*Ціха і незаўважна для СМІ Беларускі саюз архітэктараў правёў свой XXI з'езд. Але сход атрымаўся гарачым, скандальным.*



Дыскусія пачалася адразу пасля таго, як былі выкананы ўсе неабходныя працэдуры з'езда. Было відавочна, што ў многіх членаў саюза накіпела.

Архітэктар **Лявонцій ЗДАНЕВІЧ** пачаў з персаналій.

*"Я толькі сёння даведаўся, што бізнесмен **Юрый Чыж** з'яўляецца ганаровым сябрам нашага Саюза архітэктараў,* – прызнаўся Здaневіч. – *Дзіўлюся, чаму ён апынуўся ў такой не паважанай дзяржавай арганізацыі. Прыкра, што быццам бы мы такім чынам далі яму карт-бланш на тыя "архітэктурныя творы", якія назіраем у Мінску. Шкада!.."*

Нагадаем, што менавіта фірмы Чыжа будавалі тыя самыя шматпавярховікі ў Мінску, якія выклікаюць абурэнне і ў многіх гараджан, і ў большасці прафесіяналаў-архітэктараў, – гаргару ў Траецкім прадмесці і ці то гатэль, ці то нешта іншае ля цырка. Абодва будынкі паўсталі быццам выклік тым прафесіяналам, якія лічаць, што цэнтр сталіцы – гэта не набор пабудоў, а пэўны горадабудаўнічы стыль. Але ўплывовы бізнесмен Юрый Чыж нейкім чынам атрымаў дазвол, каб парушыць тое, што стваралася шмат дзесяцігоддзяў. Ды яшчэ, нібы ў насмешку, стаў ганаровым членам Саюза архітэктараў!.. Сарказм Лявонція Здaневіча цалкам зразумелы.

Але старшыня саюза **Аляксандр КОРБУТ** не разгубіўся. Ён патлумачыў, што ў свой час Юрый Чыж даваў арганізацыі грошы. Гэта было яшчэ ў 2001 годзе. Вось і стаў "ганаровым архітэктарам" – так бы мовіць, купіў званне.

"Народнай Волі" спадар Корбут патлумачыў: "*Ну, нічога такога ў гэтым няма. Гэта ж неабавязкова быць менавіта архітэктарам, каб стаць ганаровым членам нашай арганізацыі. Ды і ў той час Юрый Чыж не быў такой вядомай асобай, як цяпер…*"

Аднак не толькі асоба Чыжа цікавіла архітэктараў. Напрыклад, вялікай праблемай сталі заканадаўчыя нормы ў справе атэстацыі і сертыфікацыі. Згодна з гэтымі нормамі, да якіх, як было заяўлена на з'ездзе, спрычыніўся намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва **Дзмітрый СЕМЯНКЕВІЧ**, сёння дастаткова трох адмоўных рэцэнзій на дзейнасць праектнага інстытута, каб ён спыніў сваё існаванне. А ў кожным такім інстытуце як мінімум 250 супрацоўнікаў… З залы гучалі нават заклікі выказаць вотум недаверу чыноўніку за такую заканадаўчую ініцыятыву.

Абураліся архітэктары і цяперашняй практыкай правядзення тэндараў. Дырэктар «Мінскграмадзянпраекта» **Алег БЫКОЎСКІ** праблему патлумачыў даходліва і вобразна: "*Напрыклад, вы прыйшлі да Леанарда да Вінчы і захацелі, каб ён напісаў з вас Мадонну. Ён кажа: "Добра, я гэта зраблю за мільён долараў". А потым з'яўляецца нікому не вядомы мастак і кажа: "А я тое ж самае зраблю за 10 долараў". І ён выйграе той тэндар. Так і з'яўляецца мастацкі твор, які мастацкім творам не назавеш. Вось у чым палягае галоўная праблема. Калі кошт ставіцца на першае месца, а ўсе іншыя кампаненты другасныя, тады і атрымліваецца той вынік, які мы цяпер маем. Сітуацыю трэба вырашаць як мага хутчэй, бо час ідзе*".

На з'ездзе высветлілася, што ў архітэктараў душа за сталіцу баліць не менш, чым у звычайных жыхароў Мінска, якія менавіта архітэктараў абвінавачваюць ва ўсіх бязглуздзіцах, што адбываюцца са сталічнымі новабудоўлямі.

Архітэктар **Галіна ГОРЫНА** выступіла з ініцыятывай зрабіць неабходныя захады, каб надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці зялёнай зоне Лошыцкага парку, а таксама захаваць тэрыторыю пасля зносу выставачнага павільёна на вуліцы Янкі Купалы. Ці можна нешта зрабіць, каб захаваць у мегаполісе зялёныя выспы? Як выратаваць гістарычныя месцы сталіцы ад ушчыльнення безгустоўнымі будынкамі? Менавіта гэтыя пытанні абмяркоўвалі архітэктары. І высветлілася, што многія з іх зусім не абыякавыя да лёсу беларускіх гарадоў. Галіна Горына распавяла: "*У 1970-я гады тагачасны галоўны архітэктар Мінска "трымаў" Кастрычніцкую плошчу, бо ён лічыў, што ў нас яшчэ няма таго ўзроўню, каб зрабіць годны праект, які мог бы ўпрыгожыць плошчу. І што ў выніку атрымалася? Пабудавалі Палац Рэспублікі. І цяпер ужо нічога не зробіш. Потым з'яўляецца вялізны будынак VELCOM, якога не было бачна, пакуль не знеслі музей Вялікай Айчынай вайны. Выгляд плошчы знявечаны. Пад які аб'ект знеслі музей? Мы, спецыялісты, дагэтуль не змаглі высветліць, што ж там збіраюцца пабудаваць. А што творыцца ў іншых месцах цэнтра? Як можна было пабудаваць той "дом Чыжа", які ўносіць такі дысананс у агульную карціну?! А будынак каля цырка, які парушае ўсе нормы?!*"

Можа, усё гэта адбываецца менавіта з той прычыны, што цяперашнія ўлады не надта цікавяцца меркаваннямі архітэктараў? Чаму члены саюза маўчаць? Ці яны не маўчаць, а гараджане пра гэта нічога не ведаюць і дарэмна папракаюць прафесіяналаў у безгустоўнасці? Запыталася пра гэта ў **Юрыя МАМЛІНА**, які балатаваўся на пасаду старшыні Беларускага саюза архітэктараў. Ён адказаў шчыра:

– *Сапраўды, апошнім часам даводзіцца чуць папрокі ў бок архітэктараў. Атрымліваецца часам, што ён, архітэктар, як прафесіянал, ведае, што робіць бязглуздую рэч, якая будзе чорнай плямай на яго творчай біяграфіі. Але з-за таго, што яму самому трэба есці, карміць сваю сям'ю і сваіх супрацоўнікаў, ён паўстае перад выбарам: альбо заплюшыць вочы і прадацца, альбо праявіць прынцыповасць і застацца без працы. Ну і самі здагадайцеся, які робіцца выбар…*

Старшынёй Беларускага саюза архітэктараў абралі Аляксандра Корбута, які займае гэтую пасаду 25 гадоў. Абралі з перавагай усяго ў адзін голас. А гэта значыць, што настрой членаў саюза ўжо блізкі да тэмпературы кіпення і ёсць шанец, што нарэшце выйдуць з ценю прафесіяналы, якія памятаюць, што ў іх арганізацыі ёсць Кодэкс этыкі архітэктара.

**Любоў ЛУНЁВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Міхал ХАБРАС: «У гэтым годзе выдалі каля 370 тысяч польскіх віз»

*Часовы Паверанны ў Справах Рэспублікі Польшча ў Беларусі Міхал ХАБРАС падвёў вынікі супрацоўніцтва дзвюх краін у гэтым годзе, а таксама адказаў «Народнай Волі» на пытанне, калі ў Беларусь прыедзе новы польскі пасол.*

Спадар Хабрас расказаў пра беларуска-польскія стасункі і адзначыў, што за 11 месяцаў гэтага года консульскім аддзелам Пасольства Польшчы ў Мінску, а таксама генеральнымі консульствамі ў Брэсце і Гродне грамадзянам Беларусі выдадзена каля 370 тысяч польскіх віз. Гэта на ўзроўні мінулага года. З агульнай колькасці выдадзеных віз 25 працэнтаў – бясплатныя.

*"Трэба сказаць і пра тое, што расце колькасць шматгадовых віз, якія выдаюцца нашымі ўстановамі,* – дадаў ён. – *За 11 месяцаў 2015 года іх было каля 200 тысяч. Што тычыцца візавага аўтсорсінга, то, як вядома, польскі бок падпісаў восенню гэтага года дамову з кампаніяй VFS.Global, якая да ліпеня 2016 года адчыніць у Беларусі восем польскіх візавых цэнтраў. Гэта аблегчыць атрыманне віз для беларусаў. Плануем, што цэнтры пачнуць працаваць у Мінску, Брэсце, Гродне, Лідзе, Баранавічах, Пінску, Гомелі і Магілёве".*

**Міхал Хабрас** адказаў таксама на пытанні журналістаў. Вось некаторыя пытанні і адказы:

**– Раней польскае консульства з кожным годам выдавала беларусам усё больш віз, а зараз дынаміка засталася на ўзроўні мінулага года. Чаму няма росту?**

– Па-першае, як вядома, пры атрыманні віз была ўведзена біяметрыя, і людзі здавалі адбіткі пальцаў. Гэта крыху падоўжыла падачу заявак на атрыманне візы. Акрамя таго, мы вельмі шмат выдаём шматгадовых віз, а значыцца, змяншаецца штогадовае наведванне консульстваў.

**– Колькі будуць каштаваць паслугі візавых цэнтраў?**

– Аплата закладзена на ўзроўні 15 еўра за ўсе консульскія паслугі. Але хачу адзначыць, што звяртацца за атрыманнем візы можна будзе і ў консульскі аддзел Пасольства Польшчы. Кожны няхай сам выбірае для сябе найбольш зручны для яго варыянт.

**– Ці паўплываюць змены, якія адбыліся ў польскай уладзе пасля прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбараў, на стасункі з Беларуссю?**

– Змены ў палітыцы не толькі адносна Беларусі, але і ўсіх краін, якія ўваходзяць у праграму "Усходняга партнёрства", магчымы толькі ў межах змянення стасункаў з усім Еўрасаюзам. Апошнім часам мы бачым, што ёсць пазітыўныя зрухі з беларускага боку, Еўрасаюз таксама на чатыры месяцы прыпыніў дзеянне санкцый. Мы спадзяёмся, што тэндэнцыі паляпшэння адносін працягнуцца.

**– Ці могуць расійскія санкцыі ў дачыненні да Еўрасаюза нейкім чынам садзейнічаць павелічэнню тавараабароту паміж Беларуссю і Польшчай?**

– Мы зыходзім з таго, што ў гэтай сітуацыі Беларусь і на самай справе становіцца больш цікавай для польскіх кампаній і прадпрыемстваў, і, безумоўна, бачым перспектывы ў развіцці гандлю.

**– Ці зрушылася з месца ў гэтым годзе пытанне аб памежным руху?**

– Мы чакаем рашэння беларускага боку, бо Дамова аб памежным руху ўжо ратыфікавана ў Польшчы.

Запыталіся ў спадара Хабраса і наконт таго, з чым звязана затрымка з прыездам у Беларусь новага пасла Польшчы.

*"У нас прайшлі прэзідэнцкія і парламенцкія выбары, а таму кандыдатура новага пасла ў гэты час знаходзіцца на ўзгадненні",* – паведаміў дыпламат.

На ўдакладняючае пытанне карэспандэнта "Народнай Волі", ці можна сёння назваць хаця б прыкладныя тэрміны прыезду пасла, **Міхал Хабрас** адказаў так: *"У дыпламатыі па-рознаму бывае, таму з гэтай нагоды нешта дакладна прагназаваць проста немагчыма".*

**Алесь СІВЫ.**

СЛЫШАЛИ?

## Польша поляков не бросает

Правительство Польши рассматривает поправки к закону о Карте поляка, которые касаются финансовой поддержки со стороны государства. На денежную помощь смогут рассчитывать обладатели карты, желающие связать свою жизнь с соседней страной. Об этом сообщает «Радио Польша» со ссылкой на Rzeczpospolita.

Поправки предусматривают поддержку в размере 5400 евро на каждого члена семьи, переехавшей в Польшу и снявшей там квартиру. Она будет заключаться в частичной оплате арендованного жилья в размере 6 среднестатистических зарплат на каждого члена семьи.

Сейчас средняя зарплата в Польше составляет 3895 злотых (915 евро), в сумме каждый член семьи получит более 23 тысяч злотых (5400 евро). На обустройство места жительства и остальные нужды владелец карты сможет получить две среднестатистические польские зарплаты – 7790 злотых (1831 евро). На ремонт квартиры в проекте предусмотрено 4120 злотых (968 евро) на человека. Лица польского происхождения смогут, в случае принятия закона, рассчитывать также на оплату государством курсов польского языка и профессиональных курсов.

По данным издания Rzeczpospolita, 160 тысяч человек из постсоветских стран владеют Картой поляка. Больше всего заявлений на выдачу документа, по данным на прошлый год, было подано в Беларуси – около 63 тысяч, в Украине – примерно 60 тысяч человек.

Комиссия сейма Польши по контактам с поляками за границей также рассматривает возможность предоставить гражданство владельцам Карт поляка после года проживания в Польше.



Народная Воля http://www.nv-online.info 24 СНЕЖНЯ 2015 г.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Шчодраю рукою…

Скандал на ААТ "Камволь", калі Аляксандр Лукашэнка адмяніў запланаваны візіт на камбінат, бо туды з многіх прадпрыемстваў галіны звезлі сыравіну і абсталяванне, каб пусціць яму пыл у вочы, мае працяг.

З 2013 года ў мадэрнізацыю ААТ «Камволь» дзяржава ўбухвала сродкі, а прадпрыемству ўсё яшчэ няма чым пахваліцца перад кіраўніком дзяржавы. Відавочна, што нешта не так у самім праекце мадэрнізацыі. Аднак спыніцца і выправіць памылку не ў нашых правілах.

Грашовы паток на ААТ "Камволь", які забяспечвае дзяржава, не спыніцца. Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №493 аб выдзяленні камбінату бюджэтнай пазыкі ў памеры пяці мільёнаў еўра для папаўнення абаротных сродкаў. Пры гэтым да канца гэтага года павінна быць выдзелена 300 тысяч еўра, у наступным годзе – 4,7 мільёна.

Грошы будуць выдадзены "Беларусбанкам" пад гарантыі ўрада. Гэта значыць, што калі прадпрыемства не запрацуе і не зможа вярнуць грошы банку, то іх возьмуць з дзяржаўнага бюджэту. Іншымі словамі, крэдыт пагасяць нашымі з вамі грашыма.

Як сведчыць тэкст указа, Аляксандр Лукашэнка па-ранейшаму лічыць, што менеджарскія пралікі выпраўляюцца Крымінальным кодэксам. Так, у дакуменце сказана, што асобы, якія акажуцца вінаватымі ў невыкананні планаў мадэрнізацыі і нанясуць "істотную шкоду дзяржаўным або грамадскім інтарэсам", пры наяўнасці падстаў, павінны быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Праблема, аднак, у тым, што нават калі пасадзіць за краты ўсё кіраўніцтва прадпрыемства, збыт прадукцыі гэта ўсё роўна не забяспечыць.

**Алег СНОЎ.**

РЭАЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА

## Удвая менш

Продаж беларускіх «МАЗаў» у Расіі скараціўся ў два разы, сведчаць звесткі расійскага аналітычнага агенцтва «Автостат», якое спецыялізуецца на вывучэнні рынку транспартных сродкаў РФ.

Згодна з дадзенымі, у лістападзе гэтага года ў параўнанні з лістападам мінулага продаж МАЗаў у Расію скараціўся на 53,6%. У апошні восеньскі месяц у Расію было прададзена 266 новых «МАЗаў». Усяго за студзень–лістапад 2015 года на расійскім рынку быў прададзены 3241 грузавы аўтамабіль беларускай вытворчасці, што на 54,4% менш у параўнанні з такім жа леташнім перыядам, паведамляе «Автостат».

Трэба адзначыць, што продаж прадукцыі аднаго з асноўных канкурэнтаў МАЗа на рынку РФ – расійскага КамАЗа – таксама знізіўся, але ў меншай ступені.

ЧУЛІ?

## Дзяржава дапамагае мыцца ў лазнях



Беларусы прывыклі да заяў чыноўнікаў, што насельніцтва аплачвае толькі каля 25% паслуг ЖКГ. Аказваецца, што наведвальнікі грамадскіх лазняў таксама не плацяць цалкам за магчымасць памыцца. І нават нягледзячы на тое, што з 1 лістапада кошт квіткоў у агульныя аддзяленні сталічных камунальных лазняў павысіўся на 9%.

– *Наведвальнасць ад гэтага не знізілася*, – адзначыў у размове з карэспандэнтам агенцтва «Мінск-Навіны» дырэктар сталічнага УП «Гарадскія лазні» **Уладзімір Крук.** – *Сабекошт білета за дзвюхгадзінную памыўку аднаго чалавека ў аддзяленні другога разраду, – 65.000 рублёў. З іх наведвальнік аплачвае толькі 70%, астатняе пакрываецца за кошт бюджэтных датацый і даходаў ад аказання дадатковых платных паслуг. Маецца на ўвазе продаж лазневых прылад, паслугі цырульняў, кафэ-бараў, трэнажорных залаў, салярыя, масажыста і іншых.*

## Даражэе праезд на чыгунцы – у сярэднім на 33%

Падаражанне закране праезд і перавоз багажу на гарадскіх і рэгіянальных лініях эканом-класа, на рэгіянальных лініях бізнес-класа, міжрэгіянальных лініях.

Тарыф на праезд на гарадскіх лініях па адным напрамку павысіцца з 6,6 да 8,8 тысячы рублёў (у межах аднаго тарыфнага пояса). Тарыф на праезд у межах двух тарыфных паясоў па адным напрамку складзе 10.400 рублёў (дагэтуль – 7800), па двух напрамках – 17.600 (дагэтуль – 13.200 рублёў).

Не зменіцца толькі кошт праезду ад станцыі Мінск-Пасажырскі да Нацыянальнага аэрапорта «Мінск», ён будзе складаць 25 тысяч рублёў (ад Смалявічаў да аэрапорта – 14.600).

На рэгіянальных лініях эканом-класа тарыф за адну зону складзе 1600 рублёў (цяпер – 1200 рублёў), за 1 кіламетр – 160 рублёў замест цяперашніх 120 рублёў.

Цана дастаўкі багажу ў залежнасці ад адлегласці і вагі вырасце на 33%.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ…

# Потеряет ли Беларусь контракты в Венесуэле?

*В дружественной белорусской власти латиноамериканской стране на последних парламентских выборах победила оппозиция. Рискуют ли белорусские компании, активно работающие в Венесуэле еще со времен Уго Чавеса, потерять свое место на этом рынке?*







**Накануне сдачи жилых домов в Fuerte Tiuna на сайте «Белзарубежстроя» появился фоторепортаж с объекта. По фотографиям видно, что строят белорусы в Венесуэле такое же социальное жилье, как и на родине. Все новостройки оборудованы могилевскими лифтами, на стенах в квартирах белорусская плитка, в санузлах – умывальники «Керамин».**



**Сборочное производство на «ВенеМинск Тракторес» до сих пор остается скромным…**

### Венесуэла – президентская страна

Безусловно, победа оппозиции на выборах – это сенсация. Впервые за 15 лет объединенные демсилы получили большинство мест в парламенте – Национальной ассамблее. Но… *«Венесуэла является президентской республикой, в которой глава государства обладает немалой властью,* – объяснял тонкости государственного устройства Венесуэлы обозреватель BBC **Иоланду Валери**. – *Допустим, Национальная ассамблея принимает новый закон. Но его потом должен подписать президент. Верховный суд тоже может заявить, что новый закон не является конституционным, и откажется его применять. Да, в стране есть три ветви власти, но основной из них и самой влиятельной является именно президент».*

По словам аналитика, теоретически парламент может в следующем году объявить референдум для того, чтобы отстранить Мадуро от власти. *«Но для этого ему понадобится собрать подписи не менее 20% зарегистрированных избирателей»,* – поясняет Валери. Есть еще один путь смены президента – депутаты могут отстранить Мадуро от власти на основании его плохого здоровья. *«Прямо скажем, такой сценарий маловероятен, но, согласно конституции, для этого достаточно простого большинства в парламенте»,* – замечает эксперт.

### Нефтяная отрасль

Но вернемся к белорусскому интересу в этой стране.

Беларусь осуществляет ряд совместных с Венесуэлой проектов в области строительства жилья, в совместной нефтедобыче, газификации, промышленности.

Одним из первых белорусско-венесуэльских проектов стал проект по нефтедобыче. Начинался он в середине 2000-х, в пору российско-белорусской «нефтяной войны», когда Российская Федерация грозилась изменить условия поставок нефти в Беларусь, естественно, не в нашу пользу. Именно тогда Беларусь объявила о том, что начинает добычу «черного золота» в дружественной Венесуэле. Несмотря на географическую удаленность стран и критику скептиков, венесуэльская нефть явилась весомым аргументом в споре с российской стороной за более выгодные условия поставок.

В 2006 году в Венесуэле появилось представительство «Белоруснефти», в 2007-м было создано совместное белорусско-венесуэльское предприятие по добыче нефти и газа «Петролера БелоВенесолана» (доля белорусской стороны составляет 40%), а в 2010-м в Беларусь танкерами были доставлены первые тысячи тонн венесуэльской нефти (позже был разработан маршрут поставок по более дешевой схеме совместно с Азербайджаном).

В последние годы компания «Петролера БелоВенесолана» в среднем добывает в год около 1 млн тонн нефти и 900 млрд куб. метров газа на семи нефтяных и шести газовых месторождениях.

Причем «Петролера БелоВенесолана» – не единственное белорусско-венесуэльское СП, завязанное на добыче нефти. В 2007 году было создано совместное предприятие по сейсморазведочным работам «Сисмика БелоВенесолана». которое до сих пор ведет разведку крупных месторождений полезных ископаемых в Венесуэле. 2011 год стал годом рождения «Сервисос Петролерос БелоВенесолана» – совместной компании, которая занимается бурением и ремонтом скважин.

Какова теперь судьба этих предприятий и что ждет белорусов, работающих на них, не собираются ли они вернуться на Родину? Например, сразу после парламентских выборов в Венесуэле «Роснефть» рекомендовала семьям сотрудников покинуть эту страну, хотя сама компания объявила, что не собирается продавать доли в местных проектах.

– *Насколько мне известно, определенные сложности данные предприятия сейчас испытывают,* – говорит **Татьяна Маненок**, эксперт в вопросах нефтехимии Белорусского института стратегических исследований. – *Но связано это в первую очередь с падением мировых цен на нефть, а не с прошедшими в Венесуэле парламентскими выборами. До падения цен на нефть «Петролера БелоВенесолана» работал с прибылью. Белорусские нефтяники, приезжая из Венесуэлы, шутили, что не знают, куда девать боливары… Сейчас определенные проблемы у совместных предприятий есть, собственных ресурсов недостаточно, чтобы финансировать поставленные ранее проектные задачи. Но руководство «Белоруснефти» уверено, что ситуация изменится, и поэтому добыча нефти за рубежом для «Белоруснефти» остается стратегически важным направлением. Сворачивать свою деятельность белорусско-венесуэльские СП не собираются.*

### Строительные услуги

С 2007 года началось и активное сотрудничество между Беларусью и Венесуэлой в области строительства. Тогда же появилась компания «Белзарубежстрой», акционерами которой стали «Гомельпромстрой», Стройтрест №8, «Трастбанк» и зарегистрированная в ОАЭ компания AlmInvestments. Свою задачу новая структура определила как строительство за счет венесуэльского бюджета объектов промышленной и гражданской инфраструктуры в различных регионах Венесуэлы.

Востребованность в наших специалистах не вызывает удивления. Дело в том, что тогдашний президент Уго Чавес объявил национальную программу «Великая миссия жилья» и обещал до конца 2019 года построить в Венесуэле 3 млн квартир. Но на данный момент до реализации этих планов далеко – на 10 декабря 2015 года в Венесуэле построено всего лишь 850 тысяч квартир, из них белорусскими строителями было возведено без малого 7 тысяч квартир.

– *Сейчас как раз период сдачи жилья, построенного нашей компанией на очередной площадке в районе Fuerte Tiuna на юге Каракаса,* – рассказывают в «Белзарубежстрое». – *В Венесуэле находится и генеральный директор предприятия Виталий Бондарик. В декабре запланировано торжественное открытие первых восьми 10-этажек.*

Это, к слову, не первый гражданский объект «Белзарубежстроя» в Венесуэле, но самый крупный – он рассчитан на строительство 10 тысяч квартир, а готовы к заселению пока только 3 тысячи. Есть все основания считать, что белорусским строителям будет чем заниматься в Венесуэле.

– *Мы до сих пор проводим кастинг и принимаем на работу в Венесуэлу белорусских специалистов,* – говорят в службе по управлению персоналом «Белзарубежстроя». – *На сайте компании имеется раздел «Вакансии», где соискатель может заполнить анкету. На какие заработки может рассчитывать белорус в Венесуэле – секрет, эта информация не разглашается.*

Однако далеко не все проекты «Белзарубежстрою» удалось реализовать в Венесуэле. В первую очередь это касается промышленных объектов.

Дело в том, что еще во времена Чавеса заявлялось о грандиозных планах: в Венесуэле будет налажено производство белорусских тракторов, строительной техники, бетонных изделий, сэндвич-панелей, заработает фабрика по пошиву рабочей одежды и т.д. Производственные корпуса всех этих предприятий должны были возводить специалисты «Белзарубежстроя». Однако из заявленных 15 создано пока только четыре совместных предприятия. В 2012 году в Венесуэле заработали заводы по сборке тракторов «Беларус» («ВенеМинск Тракторес»), грузовых автомобилей («МазВен») и завод по производству кирпича. Чуть позже был сдан в эксплуатацию завод по производству дорожно-строительной техники «Амкодор». Будут ли построены новые совместные предприятия, говорить теперь никто не берется.

### Промышленность и сельское хозяйство

Естественно, совладельцами всех этих компаний являются белорусские предприятия. Например, официально сообщается, что «ВенеМинск Тракторес» – детище Минского тракторного завода и Боливарианской Республики Венесуэла. Для того чтобы уточнить, повлияли ли каким-то образом результаты последних парламентских выборов в Венесуэле на деятельность данного СП, звоню на МТЗ.

– *Предприятие функционирует в рабочем режиме,* – поясняют в Управлении продвижения и реализации продукции в странах дальнего зарубежья Минского тракторного завода. – *Да и почему выборы должны каким-то образом сказываться на его работе? Там трудятся венесуэльцы, наши специалисты (3–4 человека) находятся там в командировке и оказывают техническую помощь. С мая 2012 года, когда завод заработал в Баринасе, выпущено 2600 тракторов. Это средний показатель. В планах – выход на проектную мощность 10 тысяч в год. Реально ли это? Это перспектива на ближайшие 5 лет.*

Стоит отметить, что такие же планы по производству тракторов «Беларус» на созданном в Венесуэле «ВенеМинск Тракторес» назывались и два года назад. Заявлялось, что именно *«у белорусских тракторов большие перспективы на рынке МЕРКОСУР: конкурентов им по цене, качеству и масштабам производства на континенте просто нет».* Но большого производства и массового экспорта белорусских тракторов благодаря венесульэскому сотрудничеству пока не получается.

* * *

К слову, несколько сельскохозяйственных объектов, включая строительство в Венесуэле четыре агрогородков, птицефабрики, комбикормового завода, так и остались на бумаге. Все это дает основания считать, что двусторонние отношения между нашими странами далеко не те, что были во времена президентства Уго Чавеса. Что, собственно, подтверждает и статистика. Только за год после смерти Чавеса товарооборот между нашими странами снизился на 85% – с 580,8 млн долларов до 83,3 млн долларов. В прошлом году он составил только 99,7 млн долларов. Комментируя цифры в 2014 году, тогдашний посол Венесуэлы в Беларуси Америко Диас Нуньес заявил, что основная причина такого падения – смена правительства в Венесуэле. Но Мадуро – человек Чавеса. И можно только догадываться, что может произойти с белорусскими проектами и двусторонними связями, если в стране окончательно победит оппозиция…

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПРАБЛЕМА!



# Жыхары сталічнага мікраараёна «Уручча» пакутуюць ад нашэсця бяздомных сабак

*Зграя агрэсіўных сабак можа ў любы момант кінуцца на чалавека. Раён абклеены ўлёткамі з перасцярогамі аб магчымым нападзе. Пад пагрозай бяспека і здароўе дзяцей – у мікраараёне шмат дзіцячых садкоў, школ і дваравых гульнявых пляцовак. Арганізацыі, адказныя за вырашэнне гэтай праблемы, быццам бы не бяздзейнічаюць, але адлавіць усю зграю пакуль не атрымліваецца. "Народная Воля" паспрабавала разабрацца ў гэтай сітуацыі.*

У рэдакцыю звярнулася чытачка газеты, якая пражывае ў сталічным Уруччы. Яна і прынесла тую самую ўлётку. Вось яе тэкст: *"Паважаныя жыхары раёна! Ужо некалькі гадоў нашаму раёну пагражае зграя здзічэлых бяздомных сабак. У апошні час зграя актывізавалася, з'яўляюцца першыя выпадкі нападу на людзей".*

Барацьбу з бадзяжнымі жывёламі ўзначаліў мясцовы жыхар **Сяргей Халікаў**. Ён распавёў пра гісторыю супрацьстаяння:

– Гадоў з дзесяць таму ў нашым мікраараёне з'явілася складская база аднаго з будаўнічых упраўленняў, – расказвае Сяргей. – Гэтыя склады і дагэтуль знаходзяцца ў раёне вуліцы Францыска Скарыны. Там і з'явіліся сабакі. Жывёлы былі навучаны ахоўваць тэрыторыю, лаяць і кідацца на людзей. А потым, верагодна, скарацілася фінансаванне, тэрыторыя, на якой знаходзяцца склады, зменшылася, і гэтыя сабакі апынуліся на вуліцы.

**– І што – за некалькі год іх адлавіць не ўдалося?!**

– Так, адлавіць усіх сабак не ўдаецца дагэтуль. Арэал іх знаходжання вельмі вялікі – жывёлы ж не сядзяць на месцы. Іх бачылі і ў Парку валуноў, і на вуліцы Шугаева, і на вуліцы Скарыны, і ў раёне Парку высокіх тэхналогій.

Побач з Паркам высокіх тэхналогій у свой час быў пустыр, тут атабарыліся бамжы, якія гэтых сабак падкормлівалі. Тут жа і было логава жывёл. Зараз на пустыры ўзвялі дзевяць жылых дамоў, распрацавалі інфраструктуру – тут з'явілася пачатковая школа, дзіцячыя пляцоўкі. А сабакі нікуды адсюль не сышлі – яны тут жылі і множыліся!

Небяспека ад гэтых агрэсіўных жывёл, безумоўна, існуе – яны ж намуштраваны на ахову тэрыторыі, у тым ліку і той, якую лічаць сваёй. На сённяшні дзень у зграі больш за дзесяць (!) жывёл.

**– Ці вядома вам пра выпадкі нападаў сабак на людзей?**

– Не так даўно быў і такі выпадак, а раней яны нападалі на хатніх, больш слабых, жывёл і нават разрывалі іншых сабак. У гэтай зграі вялікія, моцныя сабакі – нямецкія і ўсходнееўрапейскія аўчаркі. На людзей яны нападаюць спантанна. Іх нават правакаваць не трэба…

**– Ну няўжо нельга вырашыць гэтую праблему?**

– Спачатку былі электронныя звароты ў адміністрацыю Першамайскага раёна Мінска. Адтуль нас перанакіравалі ў "Фаўну горада" – прадпрыемства, якое прафесійна займаецца адловам бадзяжных жывёл. Я з'яўляюся старшынёй жыллёва-будаўнічага спажывецкага кааператыва, прасцей кажучы, прадстаўляю юрыдычную асобу, якая мае права на заключэнне дамовы з УП "Фаўна горада". Дамова на адлоў зграі сабак была заключана ў гэтым годзе. Мы ўдзячныя супрацоўнікам "Фаўны горада", яны сапраўды робяць усё, што могуць, аднак шматлікія выезды спецыялістаў нават на некалькіх спецмашынах праблему да канца не вырашылі – поўнасцю зграя не адлоўлена. Мы, са свайго боку, робім усё, што можам. Як толькі бачым зграю, адразу тэлефануем спецыялістам, тыя выязджаюць… Але ж сабака не помнік, на месцы не сядзіць, таму адлавіць іх да канца і не ўдаецца.

* * *

Праблема, якую агучыў Сяргей Халікаў, безумоўна, ёсць, і яе неабходна вырашыць, пакуль не дайшло да вялікай бяды. Няўжо "Фаўна горада" не мае магчымасці хаця б некалькі дзён падзяжурыць у мікраараёне і адлавіць усіх небяспечных жывёл? Звяртаюся за каментарыем.

– *У пытаннях адлову бяздомных жывёл мы працуем выключна з юрыдычнымі асобамі*, – адказваюць у арганізацыі. – *Існуе пэўны парадак нашай работы. Спачатку ад юрыдычнай асобы паступае заяўка, а потым мы ажыццяўляем выезд. Мы добра ведаем пра праблему са зграяй сабак ва Уруччы, выязджаем, патроху адлоўліваем. Але ў нас ёсць месячны графік выезду ў розныя сталічныя раёны – мы напрамую працуем з заяўкамі, якія паступаюць з ЖЭСаў.*

Дзіўны адказ. Заяўка ёсць, але яна да канца не выканана. Працуем, але зрабіць нічога не можам...

Яшчэ адна структура, якая, здаецца, магла б абараніць людзей ад бадзяжных сабак, – Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі Першамайскага раёна Мінска. У гэтай установе ёсць аддзел камунальнай гігіены, яго спецыялісты павінны сачыць за тым, што адбываецца на вуліцах раёна. Аднак атрымаць каментарый там не ўдалося. Спаслаўшыся на тое, што выконваючая абавязкі начальніка аддзела Алена Калечац на бальнічным, мне параілі патэлефанаваць пазней... Безумоўна, каментарый гігіеністаў раёна мы паспрабуем узяць пазней, але спадзяёмся, што, калі гэты рэпартаж з'явіцца на старонках газеты, праблема сумеснымі намаганнямі ўсё ж такі будзе вырашана.

Ці будзем чакаць, пакуль ва Уруччы зграя бадзяжных сабак сур'ёзна пакалечыць чалавека?!

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

